Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

11 - 17 ліпеня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ




Стыхія

## Нязваны госць горшы за татарына. Асабліва калі гэта шаравая маланка

### У сям'і Дзергачовых усе засталіся жывыя

*МАЛАДЗЕЧНА. Вул. Някрасава, 24. Дождж у апошнюю нядзелю. Час абеду. На кухні гаспадыня Галіна пячэ піражкі, гаспадар Сяргей кіруе працэсам, а чатырохгадовая ўнучка Хрысціна чакае, каб "зняць пробу".*

Выбух. Адзінаццацігадовы ўнук Арцём напалохаўся. У зале ён глядзеў мастацкі фільм, і раптоўна згас тэлевізар. Імгненне - і ўжо гаспадыня знямела: над галавою ўнучкі завісла шаравая маланка.

- Ружова-чырвоны мячык ледзь не дакрануўся да яе валасоў. Праз некалькі секунд выплыў праз адчыненую фортку ў кухні, пакідаючы за сабою чырвоную паласу, - успамінае Галіна.

Яшчэ сям'я не пазбавілася шоку, як з вёдрамі вады прыбеглі суседзі - няўжо не адчуваеце, што гарыце? Усе выбеглі на двор. Крычалі.

Бабуля:

- Арцём, глядзі за Хрысцінай!

Унук бабулі:

- Дзе кошка Кацька? Яна пад дахам кацянятаў павінна была прывесці!

Гаспадар усім:

- Дах гарыць. Ратуйце!

Першымі ўбачылі пажар жыхары пяціпавярхоўкі, што побач. Адтуль маладыя людзі прыцягнулі па два вядры вады. Пачаў узрывацца і разлятацца ва ўсе бакі шыфер. Дзесяткі людзей вёдрамі неслі ваду. Выклікалі пажарных. Загаранне ліквідавалі. Адразу пад дажджом пачалі насціпаць дах. Спатрэбілася 20 лістоў шыферу. Зноў дапамаглі людзі. Свае запасы прынеслі сем'і Кушаляў, Сачыўкі...

Згарэла гарышча, у сцяне дома ўзнікла шчыліна, згарэлі 2 тэлевізары (адзін працаваў, другі проста быў падключаны ў разетку), тэлефон, электралічыльнік. Вакол дома знішчаныя грады.

*Фортка, праз якую і заляцела маланка*



- Але ўсё магло быць значна горш, - лічыць гаспадыня.

Сёння Хрысціну адпойваюць святою вадой, Арцём знайшоў кошку Кацьку. Дарослыя думаюць, як аддзячыць людзям, вярнуць ім шыфер, зрабіць капрамонт свайго дома. Відавочна адно - сваімі сіламі сям'я Дзергачовых вынікі здарэння не ліквідуе.

А маланка, хутчэй за ўсё, завітала ў дом праз адчыненую фортку дзедавага пакоя. Перад наведваннем заявіла аб сабе, пагрукаўшы ў дах.

*Васіль САВІЦКІ.*



*На здымку: Арцём, Хрысціна і Кацька на наступны дзень пасля здарэння. Фота аўтара.*

Асаблівасці нацыянальнага палявання

## За ўсё ў адказе

*У №6 "РГ" за гэты год быў змешчаны артыкул аб канфлікце, што ўзнік у паляўнічай гаспадарцы Смаргоні. Рэдакцыя змясціла думкі супрацьлеглых бакоў. Днямі мы здзівіліся, атрымаўшы ад суддзі Людмілы Пятровай запрашэнне на разбор, дзе "РГ" выступае ў якасці суадказчыка. Іскавую заяву "аб абароне гонару і абвяржэнні дадзеных у газеце" напісаў Мікалай Сліж.*



Смаргонскі райсавет беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў 1 кастрычніка мінулага года выключыў Мікалая Сліжа са сваёй арганізацыі. 5 сакавіка абласны савет - аднавіў. Цяпер справу разглядае рэспубліканскі Савет БТПР.

Суд чакае вынікаў рэспубліканскай праверкі. Суддзя прапанавала адзіным адказчыкам зрабіць... нашу газету: маўляў, лягчэй будзе дакументальна аформіць разгляд справы. Што тычыцца адказнасці аўтара той газетнай публікацыі, то ў судзе ісцец заявіў, што да "РГ" нічога не мае.

*Васіль САВІЦКІ.*





Адным абзацам

Мінулы тыдзень складаўся амаль скрозь з выхадных і святочных дзён - акрамя завяршэння палявых работ і сенакосаў краіна адзначыла Дзень незалежнасці (па новым стылі) і 930-годдзе нашай сталіцы. На ўрачыстым пасяджэнні ў Оперным тэатры прэзідэнт не толькі выступаў на пакуль яшчэ таксама дзяржаўнай беларускай мове, але з сабранага беларусамі культурнага багацця згадаў і пра Вялікае княства Літоўскае. Самі ўрачыстасці, уключаючы і бледны парад Узброеных сіл, і тэатралізаваныя паказы, штурханіну і п'янства масавых гулянняў, нагадвалі дэманстрацыі застойных гадоў.

Падвёўшы вынікі работы сесій Нацыянальнага сходу і абмеркаваўшы прапанову аднаго з дэпутатаў аб роспуску парламента і новых выбарах, дэпутаты абедзвюх палат пайшлі на канікулы. Адыходзячы ў водпуск, дэпутаты атрымліваюць з бюджэту прыкладна па 13 млн. рублёў, уключаючы заработную плату (4,5 млн. у радавога дэпутата), адпускныя за два месяцы, матэрыяльную дапамогу ў памеры 1,7 акладу.

Тым, хто не паспеў атрымаць асалоду ад ігры аркестра пад кіраўніцтвам М. Фінберга ў перадачы "Угадай мелодию" і на Дні горада, раім не выключаць тэлевізар - у "базарным" Віцебску зноў сабраліся славяне і госці музычнага фестывалю.

Міністэрства замежных спраў Беларусі пазбавіла 7 ліпеня акрэдытацыі карэспандэнта ОРТ Паўла Шарамета за "заведомые искажения информации о событиях в Республике Беларусь". П.Шарамет - трэці расійскі тэлежурналіст за апошні час, які прымусова пазбаўлены магчымасці працаваць у Беларусі.

Навіны

## Шанц для агрэгатнага

*СМАРГОНЬ. Днямі цэхі мясцовага агрэгатнага завода наведалі бізнесмены з Фінляндыі.*

Яшчэ раней фіны прапанавалі ў калгасах мадэрнізаваць айчынныя комплексныя збожжасушылкі. Дакладней, змяніць у іх топкі на больш якасныя, замежнай тэхналогіі. Вось і вырашылі госці: а ці не наладзіць вытворчасць топак на месцы, у Смаргоні? Канатракт пакуль не падпісаны. Але першы намеснік мэра Іосіф Велькашынскі глядзіць наперад. Фіны не ўтойваюць сваю цікавасць да беларускага жыта. А разлічваюцца з рэспублікай хочуць камбайнамі "Сампо", якія выпрабоўваюцца ў Жодзіне і Шчучыне. Чаму б іх тэхніку не збіраць на нашых (у Смаргоні) плошчах? Іншая справа дзяржзаказ, вялікія сродкі - а гэта ўжо палітыка.

*Васіль САВІЦКІ.*

## "Любанія" заваёўвае Расію

*ВІЛЕЙКА. У раёне год як наладжаны выпуск лячэбна-сталовай мінеральнай вады "Любанія".*

Свідравіну прабурылі даўно, але, як бывае, не было гаспадара. Гавораць, лячэбнай вадою паілі жывёлу, мыліся.

Калгас "Любань", дзве сталічныя фірмы "Хант" і "Гарно" заснавалі закрытае акцыянернае таварыства. Разам набылі абсталяванне, гаспадарка выдзеліла памяшканне. На вытворчасці занятыя 36 чалавек. "Перадавікі" замест планавых 5 тысяч бутэлек за змену выдаюць па 6-7. Таварыства адпрацавала год, але ўжо сёння плануецца пашырыць вытворчасць - вада карыстаецца попытам. Яе нават прапануюць ужываць хворым у абласной бальніцы, што ў Бзраўлянах. "Любанія" атрымала дыплом I ступені за якасць. З ахвотай бяруць яе на рэалізацыю па Беларусі. Прыхільнікі "Любаніі" ёсць у Саратаве, Санкт-Пецярбургзе, у Мурманску.

*Ірына БУДЗЬКО.*

## Халімон ідзе ў народ

*АШМЯНЫ. Народны тэатр паставіў камедыю Уладзіміра Саўліча "Халімон камандуе парадам". За 50 гадоў - час існавання тэатра - мясцовая публіка да камедыі заўсёды ставілася з прыязнасцю.*

Сённяшняга Халімона сыграў Аляксандр Місеенка. Тут кажуць: "Калі хочаш ведаць аб мінулым тэатра і будучым - паразмаўляй з Місеенкам." Артыст на аматарскай сцэне каля сарака гадоў. "Халімон..." у хуткім часе паедзе па раёне.

*Аддзел інфармацыі.*

## Медалёвы россып

*ВАЛОЖЫН. Прыкладна кожны сёмы адзінаццацікласнік скончыў сёлета школу з медалём той ці іншай вартасці: 31 - з залатым і 21 - з сярэбраным.*

Больш за ўсё выдатнікаў вучобы, чый адзінаццацігадовы шлях па Краіне Ведаў адзначаны медалём, у гімназіі - 18, у СШ №1 і СШ №2 райцэнтра адпаведна 8 і 6 медалістаў. Ёсць яны і сярод выпускнікоў сямі сельскіх сярэдніх школ.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Яны ідуць, а іх трымаюць

*АСТРАВЕЦ. Падабаюцца афраазіятам тамтэйшыя мясціны, бо ўжо не ў першы раз нязваных гасцей даводзіцца затрымліваць памежнікам.*

Нядаўна ля вёскі Падольцы з'явілася яшчэ адна група, якая мела намер трапіць у Літву, а затым у Германію. "Замарудзіў" у здзяйсненні мары ім адзін з мясцовых жыхароў. Ён паведаміў, што ў ваколіцах вёскі бачыў 6 афраазіятаў. Неўзабаве ўсіх затрымаў пагранічны нарад.

Сярод дарослых быў і адзін хлапчук. Трэба меркаваць, у яго гэта было не апошняе "падарожжа", бо пакарання яны так і не атрымалі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

